ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (38) май 2014 год

CATHOLICNEWS.BY

# Новая святыня

## Біскуп Буткевіч асвяціў касцёл у вёсцы Ураджайнае



**Біскуп Алег Буткевіч асвяціў 17 мая касцёл Маці Божай Ружанцовай у вёсцы Зашчэсле (Ураджайнае)* у Глыбоцкім раёне. Святыня была збудаваная айцамі капуцынамі з Докшыц.**

■ **Кастусь Шыталь**, *тэкст;* **кс. Віктар Місевіч**, *фота*

Гісторыя Зашчаслянскай святыні адлюстроўвае ўсё драматычнае жыццё каталіцкай супольнасці ў Беларусі. Першую капліцу, якую ў 1857 годзе паставіў мясцовы абшарнік Драздовіч, разабралі царскія ўлады "па просьбе" праваслаўнага духавенства. У 1902-м вернікі адбудавалі святыню, ды яе разбурылі пасля апошняй вайны камуністы. Падмуркі на могілках застаюцца нямым сведкам гвалту над верай.

Да 1925 года капліца была ў Докшыцкай парафіі, а сама вёска – ў Докшыцкай гміне. Сімвалічна, што менавіта докшыцкія манахі адбудавалі святыню ў гады незалежнасці. І належыць яна да Докшыцага дэканата.

Старыя капліцы былі драўлянымі. Новы касцёл – мураваны, грунтоўна перабудаваны з калгаснай сталоўкі. Будоўля расцягнулася на цэлае дзесяцігоддзе праз адсутнасць стабільнага фінансавання.

### Грунтоўна, як у Вялікім Княстве

"Будуем, як даўней у Вялікім княстве Літоўскім. З каменю, цэглы – усё грунтоўна", – кажа айцец Марэк Пасют. За плячыма гэтага простага і ветлівага святара – будоўлі святыняў у Зашчэслі і Бярозаўцы, аднаўленне – у Гняздзілаве, вялікі рамонт у Докшыцах.

Касцёл прыгожы. Каменная абліцоўка сценаў, шулы з чырвонай цэглы, вежачка са званом і крыжам наверсе. Аўтар гэтае прыгажосці – беларускі архітэктар і мастак Валер Шчасны – зрабіў і праект касцёла, і аздобіў яго ўнутры.

Над алтаром – вялікі крыж святога Даміяна, копія таго абраза Распятага, які натхніў на пакаянне святога Францішка. Менавіта ад жабрака з Асізі вядзе сваю гісторыю ордэн капуцынаў.

Стацыі Крыжовага шляху аформленыя па-мінімалісцку. Сапраўдная адметнасць Зашчаслянскага касцёла крыху вышэй. Дарога Святла – чатырнаццаць абразоў, якія распавядаюць гісторыю ад Уваскрасення да Спаслання Святога Духа. Пранікнёныя выявы, створаныя ў стылі ўсходняй іканаграфіі. Толькі чалавек з глыбокай верай можа напісаць такія.

Касцёл поўны людзей. Сабраліся і мясцовыя вернікі, і людзі з суседніх парафій. Алтар упрыгожаны кветкамі – дзясяткі белых ружаў. Урачыстасць, якая бывае толькі аднойчы.

### Каб душа не стала руінай

Біскуп Алег Буткевіч увайшоў у касцёл ціха. Укленчыў на хвіліну перад алтаром, скіраваўся ў закрыстыю, каб вярнуцца з урачыстай працэсіяй і пачаць Літургію.

"Дзякую айцу Марэку за гэтую прыгажосць. Не проста святыню, а прыгожую святыню. Бог ёсць прыгожы, і Яго святыня мае быць прыгожай", – кажа біскуп.

*Працяг на стар. 5*

*Вёска Зашчэсле была перайменаваная ва Ураджайнае ў 1964 годзе. Людзі старэйшага веку дагэтуль выкарыстоўваюць гістарычную назву.

# Папа і мусульмане

**Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, Папа Францішак заклікаў маліцца за ахвяраў выбуху на вугальнай шахце ў заходняй частцы Турцыі, у выніку якога загінулі больш за 300 чалавек і яшчэ некалькі сотняў знаходзяцца пад заваламі. “Заклікаю вас маліцца за шахцёраў, якія загінулі на руднiку Сома ў Турцыі, і тых, якія яшчэ заблакаваны ў шахце. Няхай Пан прыме памерлых у свой дом і дасць суцяшэнне іх блізкім”, – сказаў Папа на заканчэнне агульнай аўдыенцыі 14 мая 2014 г.**

**Таксама Святы Айцец заклікаў маліцца за лівійскіх эмігрантаў, якія загінулі 11 мая 2014 г. у Міжземным моры, спрабуючы дасягнуць берагоў Еўропы. У выніку караблекрушэння патанулі каля 40 чалавек. “Няхай правы чалавека будуць на першым месцы і адбудзецца аб’яднанне сіл дзеля папярэджання такіх ганебных здарэнняў”, – сказаў Пантыфік.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



Папа Францішак абмывае ногі ў Вялікі Чацвер мужчынам, сярод якіх лівіец-мусульманін Хамед.

## Чаму Папа абмывае ногі мусульманам?

Як бачым, Папа звяртае сваю ўвагу не толькі на тое, што датычыцца каталіцкай часткі грамадства. У дадзеным выпадку Святы Айцец уваходзіць у сферу ісламскага свету. Ці правільна гэта? Мы можам, безумоўна, згадзіцца з яго дыпламатычнымі спачуваннямі ў сувязі з гібеллю людзей. Але як быць з просьбай да хрысціянскага Бога прыняць мусульманаў у Яго Валадарства? З гэтай нагоды згадваецца таксама ўчынак Папы Францішка на Імшы ў Вялікі Чацвер, калі, абмываючы ногі інвалідам і хворым, ён абмыў і пацалаваў ногі 75-гадоваму лівійцу-мусульманіну Хамеду. Мы ведаем, што Хрыстос мыў ногі сваім вучням. Ці можна аднесці Хамеда да вучняў Хрыста? Што азначаюць такія жэсты Папы?

У першую чаргу, трэба памятаць, кім ёсць Рымскі Першасвятар. Будучы наступнікам апостала Пятра, якога Госпад зрабіў каменем, на каторым стаіць Касцёл, і каму даў ключы Валадарства Нябеснага, Папа Рымскі з’яўляецца асобай, адказнай за місію збаўлення ўсяго чалавецтва. Мы ведаем, што Бог *“хоча збавіць усіх людзей і давесці іх да пазнання праўды”* (1 Цім. 2, 4). Таму наступнік апостала Пятра павінен дбаць пра ўсіх людзей. І ў выкананні гэтай місіі важную ролю адыгрывае стаўленне да тых, хто звонку Касцёла.

## Забыць пра мінулае і імкнуцца да ўзаемапаразумення

Айцы Другога Ватыканскага сабору ў Дэкларацыі пра адносіны Касцёла да нехрысціянскіх рэлігій «Nostra Aetate» адзначаюць: *“Усе народы ўтвараюць адну супольнасць, маюць адно паходжанне, таму што Бог рассяліў увесь чалавечы род па ўсім зямным абшары, у іх адна канчатковая мэта – Бог”*. І далей, вызначаючы стаўленне Каталіцкага Касцёла да іншых рэлігій, звяртаюць сваю ўвагу на іслам: *“Касцёл з павагай ставіцца да мусульманаў, якія пакланяюцца адзінаму Богу, жывому і самаіснаму, міласэрнаму і ўсемагутнаму, Стваральніку неба і зямлі, Які размаўляў з людзьмі. (...) Хоць яны не прызнаюць Езуса Богам, аднак ушаноўваюць Яго як прарока, ушаноўваюць таксама Яго Маці, Дзеву Марыю, а часам нават з пабожнасцю Яе заклікаюць. Акрамя гэтага, яны чакаюць дзень Суда, калі Бог будзе справядліва ўзнагароджваць усіх уваскрослых людзей. Таму яны цэняць маральнае жыццё і пакланяюцца Богу, асабліва праз малітву, міласціну і пост. Паколькі на працягу стагоддзяў паміж хрысціянамі і мусульманамі ўзнікала нямала спрэчак і варожасці, Святы Сабор заклікае ўсіх забыць мінулае і шчыра імкнуцца да ўзаемаразумення, а таксама разам захоўваць і падтрымліваць на карысць усяго чалавецтва сацыяльную справядлівасць, маральныя каштоўнасці, спакой і свабоду”*.

Гледзячы на сучасныя напружаныя адносіны паміж хрысціянамі і мусульманамі, у той час, калі рэгулярна ў навінах з’яўляюцца паведамленні пра чарговы напад мусульманаў на хрысцінаў, ва ўмовах росту экстрэмісцкіх ісламскіх рухаў, у час, калі ў Афрыцы паміж ісламскім паўночным і хрысціянскім паўднёвым Суданам разгараецца супрацьстаянне, якое сваім маштабам нагадвае генацыд у Руандзе у 1994 г., заклік сабора да паразумення захоўвае сваю актуальнасць.

## Саюзнікі ці ворагі?

Мусульмане з’яўляюцца аднымі з найбліжэйшых саюзнікаў хрысціянскага Касцёла ў гэтым свеце. Паходзіць такая блізкасць з сутнасці веры хрысціянаў і мусульманаў. На самай справе мы павінны зразумець, што наш вораг той, хто ёсць ворагам Бога. Той жа, хто верыць у Бога і стараецца ісці за Ім, павінен быць з намі заадно па словах Хрыста: *“Хто не супраць вас, той з вамі”* (Лк. 9, 50). Як адзначаюць айцы Другога Ватыканскага сабору, “мы не можам заклікаць Бога, Айца ўсіх, калі адмаўляемся паводзіць сябе па-братэрску з кожным чалавекам, створаным паводле Божага падабенства. Адносіны чалавека з Богам-Айцом і з іншымі людзьмі, яго братамі, настолькі звязаны паміж сабою, што Пісанне кажа: *“Той, хто не любіць, не ведае Бога”* (1 Ян. 4, 8).

## ...як быць з просьбай да хрысціянскага Бога прыняць мусульманаў у Яго Валадарства?

Менавіта таму Папа Францішак робіць жэст любові, цалуючы ногі мусульманіну, менавіта таму Святы Айцец просіць Бога прыняць мусульманаў у Божае Валадарства, бо яно адно для ўсіх людзей. І менавіта таму нам, хрысціянам, трэба мець на першым месцы бачанне чалавека ў яго паўнаце, а не разглядаць яго як набор ідэйных і ментальных перакананняў, каб мы не сталіся падобнымі да тых кніжнікаў і фарысеяў, у якіх Езус пытаў: *“Ці ў суботу трэба добра рабіць, ці мо блага? Жыццё выратаваць ці загубіць?” Але яны маўчалі, а Хрыстос глядзеў на іх, “засмучаны засляпеннем іхняга сэрца”* (Мк. 3, 4-5). Каб за сваёй верай, запоўненай знешнімі абрадамі і дагматычнымі ўстаноўкамі, мы не перасталі бачыць чалавека!

А як быць з ісламскай жорсткасцю ў адносінах да хрысціянаў? *“Любоў закрывае многа грахоў”* (1 Пт. 4, 8). Госпад вучыць: *“А Я вам кажу: любіце ворагаў сваіх і маліцеся за тых, што пераследуюць вас, каб сталіся вы сынамі Айца вашага, каторы ў небе, Які загадвае сонцу свайму ўзыходзіць над добрымі і ліхімі і дажджом палівае справядлівых і несправядлівых. Калі б вы любілі толькі тых, што вас любяць, дык што за ўзнагароду будзеце мець?”* (Мц. 5, 45-47). Наша задача – рабіць тое, што залежыць ад нас. Мы не будзем адказваць за чужыя ўчынкі. Таму няхай з нашага боку мусульмане бачаць павагу да іх і любоў, як гэта дэманструе і Папа Францішак.

---

**Як правільна казаць па-беларуску: свяшчэннік ці святар?**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

# СВЯШЧЭННІК ЦІ СВЯТАР?

Высокая культура маўлення – неад’емная рыса кожнага інтэлігентнага чалавека. Сёння ў беларускай мове можна пачуць абодва названыя словы. Але што лічыць правільным? Слова святар утворана ад асновы свят- пры дапамозе прадуктыўнага суфікса -ар, што паказвае на асобу, якая займаецца пэўным відам дзейнасці. Параўнаем: друкар, змагар, пекар, уладар і г.д. Як бачна, у нашай мове шмат назоўнікаў, утвораных паводле гэтай мадэлі.

Асабовы назоўнік святар падаецца ў “Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку” Вацлава Ластоўскага (1924 г.): “Священник – сьвятар” (с. 641). Зафіксавана слова і ў “Беларуска-расійскім слоўніку” М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926 г): “Сьвятар – священник” (с. 308). Але падчас татальнай русіфікацыі нашай мовы адметная беларуская лексема фактычна была выцесненая з ужытку. І толькі на мяжы 80-ых – 90-ых гадоў XX стагоддзя на хвалі нацыянальнага адраджэння згаданы назоўнік вярнуўся ва ўжытак. Так, “Русско-белорусский словарь” (1993 г.) падае: “Священник – свяшчэннік, поп, святар” (Т. 3, с. 317). Тут жа прыводзіцца і прыметнік святарскі. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы (ТСБЛМ, 1996 г.) таксама змяшчае назоўнік святар са значэннем “служыцель культу, які вядзе царкоўныя богаслужбовыя трэбы (хрысціны, вянчанне, паніхіды, споведзь” (с. 592). І, нарэшце, названую лексему фіксуе акадэмічны “Слоўнік беларускай мовы” (2012 г., с.749), што канчаткова пацвярджае літаратурны статус назоўніка святар у сучаснай беларускай мове. Таму не варта ўжываць стараславянізм свяшчэннік, бо наша мова мае адметнае, сапраўды беларускае слова, якое шырока выкарыстоўваецца і ў сродках масавай інфармацыі, і ў вусным маўленні. Лексема святар валодае выразнай словаўтваральнай структурай, матываваная прыметнікам святы і істотна ўзбагачае нацыянальна-культурны кампанент беларускай мовы.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Алімпія Цішко** (в. Старыя Габы, Мядзельскі р-н), **Соф’я Машара** (Мёры), **Вольга Парневіч** (Крулеўшчына), **Ганна Барысевіч** (Глыбокае), **Віктар і Ірына Муляронкі** (Глыбокае), **Яніна Дулінец** (в. Савуткі), **Ядвіга Кісель** (Вілейка), **Яніна Вяршэль** (в. Вігушкі, Іўеўскі р-н), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Рэгіна Ракуцкая** (Браслаў), **Аліна Гайлеўская** (Леамполле), **Леакадзія Арлова** (Дуброўна), **Аліцыя** (Паставы), **Вераніка Абуховіч** (Дунілавічы).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*



Прамаўляе прафесар Адам Мальдзіс *(справа)*.

# У Беларусі можа з’явіцца новы бласлаўлёны – Эдвард Вайніловіч

**У Чырвоным касцёле 15 мая адбылася падрыхтоўчая сустрэча па беатыфікацыйным працэсе Эдварда Вайніловіча – фундатара касцёла св. Сымона і Алены ў Мінску.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Сустрэчу ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі. Падчас прывітальнага слова да ўдзельнікаў ён зазначыў, што асоба Эварда Вайніловіча і яго ўнёсак у культурную спадчыну Беларусі вельмі важныя. Эдвард Вайніловіч не толькі прыклад руплівага гаспадара на беларускай зямлі, але і таксама ўзор адказнага бацькоўства і сужэнства.

Пробашч Чырвонага касцёла кс. Уладзіслаў Завальнюк нагадаў прысутным, што Эдвард Вайніловіч – гэта асоба, якая спрыяе еднасці ў грамадстве. Добра вядомы факт, што, будучы нябедным чалавекам, Вайніловіч будаваў не толькі касцёл для католікаў, але і царкву для праваслаўных, сінаногу для юдэяў і дапамагаў ва ўзвядзенні мячэці. Яго галоўнай ідэяй было, каб людзі ў сваіх храмах славілі аднаго Бога ў небе.

Длятаго,кабмогадбыцца працэс беатыфікацыі, неабходная дзейнасць гістарычнай і тэалагічнай камісій. Вялікі аб’ём працы яшчэ наперадзе, але ўжо робяцца некаторыя захады, каб адшукаць неабходную інфармацыю пра Эдварда Вайніловіча ў архівах. І ўжо знойдзены пасведчанні Хросту і бежмавання фундатара.



Эдвард Вайніловіч

Сцісла кажучы, юрыдычна працэс беатыфікацыі яшчэ не распачаты. Ён пачнецца тады, калі прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі ў Апостальскай Сталіцы дасць згоду на распачацце працэдуры і дэкрэтам арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча будзе іменаваны пастулятар справы – чалавек, які павінен адказваць за ход працэсу. Патрэбна мець таксама меркаванне Канферэнцыі Каталіцкіх біскупаў Беларусі адносна названага працэсу. Пасля збору ўсіх неабходных дакументаў і іх аналізу дзвюма камісіямі і спецыяльна скліканым трыбуналам яны будуць перакладзены на італьянскую мову і адасланыя ў Апостальскую Сталіцу для працягу працэдуры ў Рыме.

Варта адзначыць, што працэс беатыфікацыі Эдварда Вайніловіча ўнікальны ўжо тым, што яго лакальная фаза будзе праходзіць у Беларусі сіламі айчынных адмыслоўцаў: духавенства, тэолагаў, гісторыкаў. Усе папярэднія працэсы беатыфікацыі беларускіх бласлаўлёных праводзіліся ў Польшчы.

**Наша пошта**

*Чалавеку патрэбна не слава,*
*А людская ўвага і ласка...*

# Дабрыня выратуе свет

Больш за тры гады таму назад па ініцыятыве і пад патранатам ксяндза- пробашча Мечыслава Янчышына пры касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім была арганізавана дзейнасць парафіяльнага “Карытас”, якой кіруе Іна Францаўна Вайцяховіч. За гэты тэрмін па лініі “Карытас” шмат сем’яў атрымалі падтрымку ў выглядзе гуманітарнай дапамогі, паліва, прадуктаў харчавання. Не абдзелены ўвагай і шматдзетныя і малазабяспечаныя сем’і з вёскі Карабы Глыбоцкага раёна.

Шчырыя словы падзякі выказваюць сем’і і ўстанова адукацыі “Карабоўская дзіцячы сад-сярэдняя школа” супрацоўнікам “Карытас”, непасрэдна кс. Мечыславу Янчышыну, Іне Вайцяховіч, усім, хто неабыякавы да праблем людзей. Шчаслівыя вочы бацькоў і дзяцей – найлепшая ацэнка дзейнасці “Карытас”, якая ўзмацняе ўпэўненасць у неабходнасці несці людзям дабро, бо толькі дабрыня выратуе свет. Мы перакананыя, што да слоў нашай падзякі далучаюцца ўсе сем’і, якія атрымалі дапамогу ад парафіяльнага “Карытас”.

Дабра, міру і дабрабыту ўсім, хто аказвае падтрымку сем’ям, што апынуліся ў складаным матэрыяльным становішчы, бо “чалавеку патрэбна не слава – дабрыня чалавеку патрэбна”.

*Апякункі савет ДУА “Карабоўская дзіцячы сад-сярэдняя школа Глыбоцкага раёна імя Р.І. Мацеюна”*

# 30 гадоў на службе Богу

**Валожын**



**4 чэрвеня пробашч касцёла Святога Юзафа, што ў Валожыне Мінскай вобласці, ксёндз-доктар Гэнрык Акалатовіч адзначае 30-гадовы юбілей свайго святарскага пасвячэння. З гэтай нагоды мы, парафіяне, складаем слова ўдзячнасці нашаму юбіляру.**

## Пакліканне і адукацыя

Нарадзіўся будучы святар 8 красавіка 1960 г. у в. Новая Мыш, што пад Баранавічамі, у пабожнай каталіцкай сям’і калгаснага шафёра Уладзіслава і медсястры Тэрэзы Акалатовічаў. Пасля школы вучыўся ў вучылішчы чыгуначнага транспарту на памочніка машыніста, якое закончыў з чырвоным дыпломам. Хоць мог і далей, дарэчы, без уступных экзаменаў паступіць вучыцца на інжынера ў Гомельскі інстытут чыгуначнага транспарту, але, адчуўшы зусім іншае пакліканне, 18- гадовы юнак выбірае Рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Рызе. З перапынкам на службу ў арміі заканчвае сваю альма-матар у 1984 годзе.

Першым месцам службы семінарыста-выпускніка быў Браслаў, што на Віцебшчыне, потым – Ракаў (Валожынскі раён), адкуль яго накіроўваюць у Нясвіж на дапамогу хвораму пробашчу. Пасля Нясвіжа – Бабруйск, затым – Валожын.

Паралельна з душпастырскай службай ксёндз Гэнрык працуе і над павышэннем сваёй адукацыі і духоўнага развіцця. Паводле распараджэння Касцельнай управы, ён быў накіраваны на вучобу ў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт на факультэт права, пасля заканчэння якога атрымаў чырвоны дыплом ліцэнцыята. А дыплом доктара права быў уручаны пасля далейшай вучобы ў Рыме і абароны доктарскай дысертацыі ў 1992 годзе. Па распараджэнні кардынала Свёнтка ксёндз Генрык арганізоўваў працу Касцельнага Суда.

Відаць, на добрую глебу былі кінуты зернеткі хрысціянскага выхавання яшчэ змалку…

## Адзінаццаць кіламетраў пешшу да касцёла

А выхоўваліся дзеці (акрамя Гэнрыка, дзве сястры і брат, які таксама стаў святаром), як і належыць у пабожных сем’ях, на рэлігійнай аснове, і ў першую чаргу – у духу паслушэнства і павагі да бацькоў і любові да Бога. Сёння кс. Гэнрык з цеплынёй узгадвае той далёкі час, калі дома штодзённа ўсёй сям’ёй маліліся, калі кожную нядзельку разам прысутнічалі на Святой Імшы. Найбліжэйшы касцёл быў у Баранавічах – за 11 кіламетраў, аўтобус не хадзіў, таму пешшу даводзілася дабірацца. Праўда, былі і больш радасныя моманты для дзятвы, калі бацьку ўдавалася на службовай машыне везці да касцёла сваю сям’ю і поўны кузаў аднавяскоўцаў.

Удзячны кс. Гэнрык і святару, якому з 9-ці гадоў прыслужваў у якасці міністранта. Падчас канікулаў хлапчук кожны дзень пешшу хадзіў на Божую службу і стараўся не спазняцца. Можа быць, калі і не хацелася малому (вабілі гульні з аднагодкамі), але пачуццё абавязку брала верх над слабасцямі. А сёння ксёндз-доктар удзячны гэтаму Божаму Провіду, усведамляючы, што прыклад бацькоў і тыя штодзённыя пілігрымкі да святыні загартавалі яго характар, далі пачатак фарміраванню асобы, заклалі трывалы падмурак, каб потым на ім моцна трымацца і будаваць Храм Божы.

## Жніво вялікае…

Ксёндз Гэнрык будуе Храм і ў нашых душах. Як добры пастыр вядзе сваю паству шляхам Божым, клапоціцца пра кожную душу, удзяляючы неабходныя ласкі і збаўленчыя сакраманты. Заўсёды шчыра моліцца і за жывых, і за памерлых. З яго прыходам пабагацеў моўны складнік у богаслужэнні: акрамя традыцыйнай польскай, стала ўжывацца родная для парафіян беларуская мова. А гэта так важна – звяртацца да Бога на сваёй роднай мове.

Асаблівую ўвагу наш ксёндз удзяляе моладзі і дзецям у іх духоўным развіцці. Кожнае лета арганізоўвае аздараўленчыя двухмесячныя адпачынкі ў Італіі, турбуючыся і пра фізічнае здароўе маладога пакалення.

Ксёндз Гэнрык клапоціцца пра аздабленне касцёла і навакольнай прасторы рэлігійнымі сімваламі і атрыбутамі, якія цешаць вока людзей і ствараюць вакол сябе аўру святасці. Яшчэ ў 2007 годзе злева ад касцёла, на гарадской плошчы, быў пастаўлены помнік цяпер ужо святому Яну Паўлу ІІ, а справа – фігура Маці Божай.

Таксама трэба адзначыць паважлівыя адносіны ксяндза-доктара да вернікаў іншых канфесій. Пра гэта гавораць шмат якія факты: пробашч ніколі не ўпускае магчымасці павіншаваць праваслаўных з іх галоўнымі святамі і моліцца за іх, асабліва, калі яны прысутнічаюць у касцёле.

***…пробашч ніколі не ўпускае магчымасці павіншаваць праваслаўных з іх галоўнымі святамі і моліцца за іх.***

Святарства – адзін з сямі сакрамантаў, які патрабуе ад чалавека вялікіх ахвяраванняў і высілкаў, маральных, духоўных... Той, хто прысвяціў сябе святарству, мусіць адмовіцца ад самага дарагога – стварэння ўласнай сям’і. Але дзе б ні працаваў ксёндз Гэнрык, сям’ёй для яго былі парафіяне, з якімі не парывае цёплых адносін пасля пераезду на новае месца і якія звяртаюцца да свайго пастыра з рознымі праблемамі і просьбамі, а таксама дзеляцца сваёй радасцю, запрашаючы яго на свае сямейныя святы і ўрачыстасці...

Шаноўны ксёндз-доктар Гэнрык! Прыміце ад вернікаў парафіі Святога Юзафа шчырыя словы віншавання з 30-годдзем Вашага святарскага пасвячэння, а таксама найлепшыя пажаданні з гэтай нагоды: моцнага здароўя, Божай ласкі і апекі Маці Божай, святых. А шчырае, сардэчнае цяпло парафіян няхай заўсёды саграває Вас і натхняе на далейшую плённую душпастырскую працу на карысць людзям і на Божую хвалу.

*Ад імя парафіян –*
***Людвіка Таўгень,***
*выкладчыца катэхетычнай школы*

# Павел Дулінец: “Дабро заўсёды вернецца дабром!”



**Звычайны чалавек, згодна з вядомым выслоўем, “павінен пабудаваць дом, пасадзіць дрэва, выгадаваць сына”, каб быць шчаслівым у зямным жыцці. А што магла б зрабіць свецкая асоба ў супольнасці Касцёла? Пабудаваць касцёл? Чаму не! Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца асоба спадара Паўла Дулінца, фермера з Азярцоў, што ў Глыбоцкім раёне, і яго прыгода з касцёлам, а дакладней, з будоўляй. Спадар Павел з'яўляецца арганізатарам будаўніцтва касцёла святых Пятра і Паўла ў Азярцах.**

Прыязджаем у вёску Азярцы, каб паразмаўляць са спадаром Паўлам. Мінаем вясковыя падворкі, што патанаюць у бэзавых кустах і вясновых майскіх кветках, і здалёк бачым, як на ўзгорку, у сярэдзіне вёскі, на раздарожжы, узвышаецца невялікі, але прыгожы касцёл святых Пятра і Паўла.

Падыходзім бліжэй. Уражвае досыць вялікая тэрыторыя вакол, якую спадар Павел хоча добраўпарадкаваць да дзесяцігоддзя святыні ў 2017 годзе. Адразу за брамай, злева і справа, бачым два вялізныя камяні. На адным з іх узвышаецца крыж, а на другім спадар Павел марыць змясціць фігуру Маці Божай. З такога ж вялізнага каменя зроблены арыгінальны алтар і амбона. Пры ўваходзе ў касцёл бачым злева памятную табліцу з асвячэння вуглавога каменя ў 2003 годзе.

## Пачаткі

Спадар Павел ахвотна распавядае пра касцёл і яго будаўніцтва.

*“Гэта быў 2002 ці нават 2001 год. Падчас каляды кс. Кшыштаф Вітвіцкі, пробашч з Глыбокага, заўважыў, што ў вёсцы шмат людзей і добра было б знайсці нейкае месца, дзе людзі маглі б маліцца. Гаворка была спачатку пра капліцу. Мы доўга не чакалі і на наступны дзень паехалі да дырэктара саўгаса “Азярцы” Валянціна Паўлавіча Воранава з просьбай дапамагчы знайсці якоенебудзь памяшканне (у вёсцы было шмат пустых будынкаў). Пасля, паразмаўляўшы і падумаўшы, вырашылі: “Навошта шукаць? Давайце будзем будаваць з нуля”. “Чым саўгас зможа – тым дапаможа”, – запэўніў Валянцін Паўлавіч. Мы неяк узяліся за гэту справу, праектамі заняліся, нават будаўнічыя матэрыялы пачалі закупляць. З месцам адразу вызначыліся”.*

Спадар Павел успамінае, што для ксяндза ідэя будаўніцтва новай святыні была крыху страшнаватай. *“Трэба хадзіць і прасіць”*, – кажа спадар Павел. Лічыць, што ў Глыбоцкім раёне вельмі прыхільна ставяцца да рэлігійных спраў, і потым дадае, што калі гаворка ідзе пра вырашэнне спраў з дакументамі адносна праектаў і будоўлі, то ў яго з гэтым не было ніякіх праблем. Дарэчы, прыгадвае, што за кошт раёна былі зроблены асфальтавыя дарожкі ля касцёла пасля заканчэння будаўніцтва. Заначае, што свецкія павінны ўключацца ў жыццё касцёла, бо касцёл, як і царква, адыгрываюць сёння вельмі важную ролю ў выхаванні, захаванні нашай культуры і гісторыі”.

Спадар Павел успамінае, што сродкі на будоўлю збіралі, між іншым, сярод жыхароў вёскі. Дапамагалі грашыма не толькі католікі, але і праваслаўныя. Актыўна далучылася да дапамогі Глыбоцкая парафія, да якой у той час належала вёска. Цяжкасці з'явіліся, калі дайшлі да даху. Тады дапамог сам біскуп Уладзіслаў Блін, тагачасны ардынарый Віцебскай дыяцэзіі.

*“Вельмі шмат дапамог саўгас. У мяне працавалі людзі з Навапалацка, а саўгас даў ім жыллё на час працы. Летам, калі працавала сталоўка, іх бясплатна кармілі. I ўвогуле шмат людзей мяне падтрымлівала і ,канешне, дапамагала. Кожны разумеў, што будуецца касцёл для людзей, а не нешта асабіста для сябе. Мясцовых жыхароў да будоўлі я амаль не наймаў. Па-першае, патрэбны былі спецыялісты, якія добра ведалі сваю справу. Па-другое, усё хацелася зрабіць з толкам”.*

*“Так, будоўля касцёла – справа няпростая, былі і фінансавыя цяжкасці, але яшчэ цяжэй было псіхалагічна. Усведамляў сабе, што будую не проста нейкі будынак, а святыню. Гэта іншая адказнасць... Ішоў спаць і ўставаў з перажываннямі: а можа, там штосьці не так, ці там. Я бачыў, што святары былі вельмі занятыя, таму мне не зусім хацелася “прыцягваць” іх яшчэ і да будоўлі, хоць і яны дапамагалі, канешне, сваімі парадамі”.*

## Вера з маленства

Спадар Павел успамінае пра сваіх родных. Распавядае, што веру яму перадалі бацькі, што з маленства прывучалі сваіх дзяцей (а было іх шасцёра) да Касцёла, вучылі, што нельга працаваць ні ў нядзелю, ні ў святы. З сумам узгадвае пра іх смерць. “Бацькі памерлі паўгода назад... Адышлі амаль адно за адным, без мучэнняў”. Пасля кароткага задумення дадае: *“Гледзячы на іх адыход з гэтага свету, можна сказаць, што такую смерць яшчэ трэба заслужыць”.*

*“Мае родныя да ідэі будаўніцтва новага касцёла паставіліся вельмі добра. Сям'я мая каталіцкая. У мяне брат – інжынер-будаўнік. Ён шмат дапамог як спецыяліст у сваёй галіне, шмат каштоўных парад даў, што вельмі паспрыяла ў будаўніцтве. Падмурак без яго мы б не зрабілі, а шукаць іншага спецыяліста было б датковай цяжкасцю”.*

Павел з радасцю ўспамінае момант асвячэння новапабудаванага касцёла, якое адбылася 29 чэрвеня, ва ўрачыстасць Пятра і Паўла, у 2007 годзе. Асвяціў святыню арцыбіскуп Марцін Відовіч, тагачасны Апостальскі Нунцый у Беларусі.

## Крыж з царквы

Падчас размовы спадар Павел узгадвае таксама пра незвычайны крыж, які трапіў у іх касцёл. Дзесяці ў 2005 годзе, за два гады да адкрыцця касцёла, падчас рэстаўрацыйных прац у глыбоцкай царкве Раства Багародзіцы* было знойдзена некалькі крыжоў. Адзін з іх аддалі для новага касцёла. Фігуру Укрыжаванага Хрыста адрэстаўравалі, і зараз ён упрыгожвае галоўную сцяну святыні. *“Крыжу гэтаму хіба што каля 200 гадоў, і ён, напэўна, “намолены”. Нам вельмі прыемна, што ён знаходзіцца менавіта ў нас”*, – зазначае Павел.

***Сродкамі на будову касцёла дапамагалі не толькі католікі, але і праваслаўныя.***

Спадар Павел лічыць, што ў жыцці галоўнае проста быць нармальным чалавекам. Зазначае, што дабро заўсёды вернецца дабром: як не табе, то абавязкова тваім дзецям ці ўнукам. *“Не трэба браць жыцця ў доўг, тое, што заслужыў, тое і атрымаў”.*

I на заканчэнне спадар Павел дзеліцца з намі сваімі планамі на будучыню. З усмешкай успамінае ксяндза Юзафа Бульку**, які яшчэ пры жыцці даваў яму шмат парад адносна ўпрыгожвання тэрыторыі вакол касцёла. *“Ксёндз Булька ведаў, як і што тут зрабіць. Ён прыязджаў, калі яшчэ нават касцёла не было, і казаў: тут трэба гэта зрабіць, тут гэта пасадзіць. А я прасіў: “Пачакайце, я не запомню ўсяго”.*

Што ж, жадаем спадару Паўлу спаўнення яго мар і задум, бо, сапраўды, робіць жа не для сябе, а для іншых.

*Праваслаўная царква Раства Багародзіцы да 1878 года была каталіцкім касцёлам Сэрца Езуса пры кляштары кармелітаў босых, фундатарам якога быў ваявода Мсціслаўскі і староста Дзісненскі Язэп Корсак. Год пабудовы – прыкладна 1654-ы.

**Юзаф Булька – каталіцкі святар, былы пробашч касцёла Святой Ганны ў Мосары Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці.

***Падрыхтавала Марына Раманчук***



***Усведамляў сабе, што будую не проста нейкі будынак, а святыню.***

# Новая святыня

## Біскуп Буткевіч асвяціў касцёл у вёсцы Ураджайнае


Біскуп Алег намашчае алтар святым алеем.

*Пачатак на стар. 1*

Юнак чытае ўрывак з кнігі Нээміі. Расповед пра тое, як габрэі пасля вяртання з вавілонскага палону са слязьмі на вачах слухалі словы Пяцікніжжа, што чытаў святар Эздра.

Біскуп бярэ ў рукі мікрафон і пачынае казанне. "У нашых вёсках мы можам убачыць пакінутыя хаты – закалочаныя вокны, правалены дах. Тое самае адбываецца з душой, калі яна без Бога, – кажа біскуп. – Па чым пазнаем, што людская душа – руіна, што замест жыцця ў ёй – смерць? Калі памірае душа, яна распаўсюджвае смерць навокал". Сіроцтва, забойствы ненароджаных, разбурэнне сем'яў і п'янства – усё гэта ад таго, што чалавек забыўся на Бога, пераконвае біскуп.

"Некаторыя людзі кажуць: Бог у мяне ў душы. Жывуць людзі ў такім падмане. Але Бог не ўваходзіць туды, куды яго не запрашаюць, інакш кажучы, туды, дзе пануе грэх. Пустых месцаў няма ў свеце", – навучае біскуп Алег.

> *...Бог ёсць прыгожы, і Яго святыня мае быць прыгожай*

Словы біскупа простыя і шчырыя, як простымі былі словы Хрыста, Апосталаў і многіх святых прапаведнікаў. У голасе адчуваецца натхненне і цвёрдая вера. Час ад часу на твары з'яўляецца ўсмешка, якая нагадвае, што перад табою – жывы чалавек, а не зашпілены на ўсе гузікі адміністратар.


Пачаткі будовы касцёла ва Ураджайным.

### Абрад пасвячэння

"Што азначае пасвячэнне? Будынак вымаецца са свецкага ўжытку і прызначаецца месцам малітвы. Ён ужо не будзе выкарыстоўвацца ні для якіх мэтаў, акрамя малітвы", – тлумачыць біскуп абрад, які вось-вось здзейсніцца.

Асвячэнне касцёла пачынаецца з літаніі да Усіх Святых. Гучыць арганная музыка, хор пералічвае спевам імёны Багародзіцы, Апосталаў, прапаведнікаў і пакутнікаў, людзі адказваюць: "Маліцеся за нас". Стагоддзі гісторыі Касцёла нібы праплываюць пад скляпеннямі новага храма.

Біскуп спявае малітву асвячэння. Намашчае асвечаным алеем алтар святыні. Водарам кадзіла напаўняецца храм. Пастыр прамаўляе: "Няхай у Касцёле яснее святло Хрыста" ды чыркае запалкай, каб запаліць дагэтуль патушаныя свечкі.

Поўныя мудрасці словы малітвы, абрады, у якіх кожнае дзеянне мае глыбокі сэнс. Кожны ўдзельнік – біскуп, святары, міністранты, спевакі на хорах – ведае, што яму рабіць. Але гэта не тэатр. Тут усё – сапраўднае.

"Дзякуем Пану Богу", – прамаўляе біскуп напрыканцы ды яшчэ раз віншуе вернікаў. Пачынае служыць Эўхарыстычную Літургію, найвялікшую малітву Касцёла, падчас якой хлеб і віно будуць ператвораныя ў Цела і Кроў Хрыста, каб стаць спажыткам для вернікаў.

Напрыканцы вернікаў павіншавалі айцец Марэк Пасют і айцец Андрэй Жылевіч, віцэ-правінцыял капуцынаў у Беларусі. Таццяна Малатоўнік, прадстаўніца райвыканкама, зачытала прывітальнае слова ад яго старшыні Алега Морхата.

Біскуп яшчэ раз павіншаваў людзей і паблаславіў іх. Пасля Імшы вернікі сфатаграфаваліся са святарамі і біскупам. Свята скончылася пачастункам у будынку вясковага клуба.

**Наша пошта**

## Слуга Эўхарыстыі

Сёмы год у нашай парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў в. Ахрэмаўцы Браслаўскага раёна працуе ксёндз Ігнацій Санюта, малады, энергічны, таленавіты. Мы вельмі ўдзячныя святару за абвяшчэнне Божага слова, за змястоўныя і павучальныя казанні, за тое, што кожны дзень можам яднацца з Езусам Хрыстом у Святой Камуніі.

Касцёл наш малады, дзейнічае 12-ы год, таму мы ўвесь час штосьці робім. Асноўныя работы былі выкананы да дзесяцігадовага юбілею, але працы хапае заўсёды. У святыні з'явіўся новы абраз Арханёла Міхаіла працы мастака Уладзіміра Кандрусевіча.

15 мая наш пробашч адзначае 10-годдзе прыняцця сакраманту Святарства.

Паважаны ксёндз Ігнацій, віншуем Вас! Святар – гэта слуга Эўхарыстыі. "Няма святарства без Эўхарыстыі і няма Эўхарыстыі без святарства," – пісаў святы Ян Павел II. Святар падобны да свечкі на алтары, якая, згараючы, аддае цяпло і святло. Так і Вы аддаяце цеплыню свайго сэрца людзям, асвятляеце наш зямны шлях, каб мы дасягнулі Валадарства Божага. Мы, Вашы парафіяне, жадаем Вам моцнага здароўя, як мага больш узнёслай і светлай радасці, паўнаты святарскага шчасця і шчодрай Божай ласкі на кожны дзень. Няхай Езус і надалей дае сілы для натхнёнай працы і ахвярнага служэння Касцёлу і Божаму люду.

*Ад імя парафіянаў касцёла Узвышэння Святога Крыжа з в. Ахрэмаўцы Браслаўскага раёна,* ***Данута Чэркас***

## У Беларусь прыедзе святар-рэкалекцыяніст з Уганды

7-8 чэрвеня ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі традыцыйна пройдуць летнія рэкалекцыі, якія правядзе а. Джон Башабора з Уганды.

Для ўдзелу ў рэкалекцыях неабходна абавязкова прайсці папярэднюю рэгістрацыю ў інтэрнэце.

Тыя, хто не маюць магчымасці зарэгістравацца ў інтэрнэце, могуць тэлефанаваць па нумары (029) 935-64-04 з 10.00 да 15.00 і з 19.00 да 21.00 (пачынаючы з 12 мая).

Як паведамляе партал grodnensis.by, пачатак рэкалекцый у суботу, 7 чэрвеня, а 9.00. Завяршэнне – у нядзелю, 8 чэрвеня, св. Імшой а 12 гадзіне. У гэтую ж нядзелю а 18-й, у парафіі Святой Сям'і ў Лідзе а. Джон будзе цэлебраваць святую Імшу, пасля якой правядзе адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту з малітвай аб аздараўленні.



Айцец Джон нарадзіўся ў 1946 годзе ва Угандзе. У 1972 годзе прыняў святарскае пасвячэнне. Абараніў доктарскую дысертацыю ў галіне містычнага багаслоўя ў Папскім Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме. Пасля вяртання ў родную дыяцэзію заснаваў дзве пачатковыя і дзве сярэднія школы, а таксама два дзіцячыя дамы, у якіх знайшлі прытулак ужо больш за пяць тысяч сірот.

Айцец Джон з'яўляецца дыяцэзіяльным каардынатарам Каталіцкага Абнаўлення ў Духу Святым і чальцом Нацыянальнага Таварыства заступніцкай малітвы, якое праводзіць рэкалекцыі і харызматычныя малітоўныя сустрэчы таксама па-за межамі Уганды. Адна з такіх сустрэч нядаўна прайшла на Народным стадыёне ў Варшаве, сабраўшы каля 60000 вернікаў.

### Віншуем!

*Гэтага святара ведаюць многія каталікі Глыбоцкага раёна. Ксёндз Эдвард Нарадоўскі працуе ў Задарожскай парафіі з 2007 года. Парафія вялікая. Задарожскаму касцёлу больш за 100 гадоў. Гэта вядомая святыня, якая ніколі не зачынялася. Тут заўсёды маліліся людзі. Ксёндз Эдвард таксама служыць не толькі ў Задарожжы, а і ў Прошкаве, і ў Чарневічах. Кожны дзень ён лечыць людскія душы Божым словам, памяркоўна і сур'ёзна вядзе гаспадарчыя справы. Святар ведае ўсіх парафіян, для кожнага ў яго ёсць словы суцяшэння і падтрымкі.*

*Здаецца, мы намалявалі партрэт даволі сталага чалавека, у якога багаты пастырскі і жыццёвы вопыт. Аднак гэта не так. Ксяндзу Эдварду Нарадоўскаму спаўняецца толькі 40 гадоў. Усе парафіяне Чарневіцкага касцёла шчыра віншуюць Вас, паважаны ксёндз Эдвард, з юбілеем. Няхай Божая ласка моцна падтрымлівае Вас у жыцці і дае сілы для служэння людзям і Богу!*

З павагай, парафіяне Чарневіцкага касцёла

### З імянінамі!

*Ад усяго сэрца віншуем ксяндза Антона Лагунёнка з Днём святога Антонія!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, моцы, Божага натхнення ў служэнні Касцёлу! Хай збудуцца ўсе Вашы задумы, праекты, планы і мары!*

Вернікі Дзеркаўшчынскай парафіі

# Як ставіцца Касцёл да “Формулы 1”?

*“Скажыце, калі ласка, як ставіцца Касцёл да “Формулы 1”* (чэмпіянат свету па кальцавых аўтагонках на аўтамабілях з адкрытымі коламі) *або да бабслея* (зімовы алімпійскі від спорту, які ўяўляе сабой хуткасны спуск па адмыслова абсталяваных лядовых трасах на кіраваных санях), ***дзе ёсць перавышэнне хуткасці? Ці з’яўляецца такога кшталту спорт грахом?”***
*Кірыл*



**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі, парафія Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, Гарадок:**

– Адказваючы на гэтае пытанне, трэба адразу высветліць, як Касцёл ставіцца да спорту ўвогуле.

Касцёл блаславіляе людзей займацца спортам. Чаму? З усёй упэўненасцю спорт можна назваць адной з важных з’яў у жыцці чалавека, здольнай перакаэаць вельмі глыбокія каштоўнасці ўсім зразумелай мовай. Гэта такія добрыя справы, як братэрства, велікадушнасць, справядлівасць, пашана да цела (адначасовае адкрыццё і схаваных магчымасцяў цела, і прызнанне яго абмежаванасці), дух здаровай барацьбы і г. д.

Таму спорт выяўляе не толькі багатыя фізічныя магчымасці чалавека, але таксама яго інтэлектуальныя і духоўныя здольнасці. Але побач са спортам, які дапамагае чалавеку ў яго шматбаковым развіцці, існуе і іншы “спорт”, які яму шкодзіць: замест таго, каб служыць узнёслым ідэалам, бярэцца пад увагу толькі поспех любымі сродкамі; замест таго, каб яднаць, ён раздзяляе і стварае агрэсіўныя і варожыя адносіны.

Як бачым, спорт, развіваючы фізічныя магчымасці і гартуючы характар, ніколі не павінен адцягваць увагу тых, хто ім займаецца і цэніць, ад духоўных абавязкаў.

У выпадку “Формулы 1” і бабслея адным з галоўных духоўных абавязкаў будзе клопат пра пазбяганне празмернай рызыкі, таму што справадатычыцьзахавання жыцця спартсменаў. Гэтыя віды спорту (дарэчы, як і ўсе іншыя) патрабуюць добра падрыхтаванай каманды (трэнер, адказныя за тэхнічны стан, адказныя за здароўе спартсменаў, псіхолагі, іншыя памочнікі) і доўгіх, пастаянных трэніровак. Калі ўсё гэта ўлічана і спартсмен сваім трэнерскім штабам дапушчаны да выхаду на спаборніцтва, а да гэтага дадаецца таксама інтэнцыя спартсмена, што ён будзе па-над змаганнем за вынік ставіць захаванне жыцця і здароўя, тады няма ніякіх перашкод з маральнага пункту гледжання.

Апостал Павел параўноўвае наша жыццё з бегам на стадыёне і так кажа пра прыярытэты ў ім духоўнага элементу над цялесным: *“Ці не ведаеце, што на стадыёне бягуць усе бегуны, але ўзнагароду атрымлівае адзін? Дык бяжыце так, каб атрымаць [яе]. Кожны спаборнік вытрымлівае ўсё: толькі тыя, каб атрымаць зніШчальны вянок, а мы – незнішчальны”.* (1 Кар 9, 24-25).

## Ці можна хадзіць да споведзі, жывучы без вянчання?

***“Хвала Хрысту! Я каталічка, а муж праваслаўны. Доўгі час мы жывём разам, але без шлюбу. Ці магу я хадзіць да споведзі і прымаць Камунію?”***
*Алена*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі:**



– Катэхізіс Каталіцкага Касцёла навучае, што, каб прыняць святую Камунію, неабходна быць цалкам далучаным да Каталіцкага Касцёла і быць у стане ласкі, гэта значыць, не мець на сумленні смяротнага граху (Кампендый ККК 291).

Як бачна з пытання, муж і жонка жывуць у свабодным саюзе, не атрымаўшы благаслаўлення Касцёла на сужэнскае жыццё. Іншымі словамі, яны пастаянна жывуць у граху чужалоства, а значыць, не могуць прыступаць да святой Камуніі.

Каб дзейсна і годна перажыць сакрамант споведзі, мы ведаем, што неабходна пастанавіць сабе выправіцца з грахоў (Кампендый ККК 303). У выпадку гэтых людзей такая пастанова немагчымая, таму што яны жывуць разам. Прыступаць да споведзі ў дадзенай сітуацыі нельга. Святар не зможа адпусціць грахоў.

**Якое можа быць выйсце ў дадзенай сітуацыі?**

Каб мець магчымасць прыступаць да споведзі і прымаць святую Камунію, трэба павянчацца. Для гэтага неабходна звярнуцца ў парафіяльную канцылярыю і паведаміць пра сваю сітуацыю святару.

# Што такое генеральная споведзь?

***“Што значыць – споведзь за ўсё сваё жыццё?”***
*Эліна*

**Напытаннеадказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**



– Мэтай і вынікам кожнай сапраўднай споведзі з’яўляецца паяднанне чалавека з Богам і супольнасцю, выпраўленне свайго жыцця, а таксама аднаўленне праўдзівага вобразу Бога ў сабе. Праз споведзь грэшнік паводзіць сябе як умілаванае Божае дзіця.

Кожная першая споведзь чалавека ахоплівае ўсё папярэдняе жыццё. У выпадку дзіцяці, каторае прыступае першы раз да споведзі, перыяд, за які вызнае грахі, даволі невялікі. Здараецца і так, што ўжо сталы чалавек, ахрышчаны ў дзяцінстве, доўга не ўдзельнічаў у рэлігійным жыцці, а пазней, натхнёны ласкай Бога, навярнуўся і вырашыў прыступіць да споведзі за ўсё жыццё. У гэтым выпадку споведзь ахоплівае сапраўды доўгі перыяд. У каталіцкіх часопісах можна час ад часу прачытаць вельмі прыгожыя сведчанні тых, хто паяднаўся з Богам і Касцёлам пасля доўгіх гадоў. Яны падобныя да святога Аўгусціна, які, пасля навяртання ўжо ў сталым узросце, напісаў: *“Ты, Пане, добры і міласэрны. Ты сягнуў да самых глыбінь маёй душы. Адтуль, з глыбіні майго сэрца, Ты дастаў і далёка адкінуў неабсяжнасць сапсаванасці... Дзе ж была мая свабодная воля на працягу стольскіх гадоў? Якім прыемным нечакана стала для мяне быць свабодным ад дурных задавальненняў!”* (Святы Аўгусцін, Споведзь, IX, 1).

У Каталіцкім Касцёле практыкуецца таксама генеральная споведзь, якая ахоплівае ўсё жыццё або нейкі яго перыяд. Такая споведзь з усяго жыцця дапамагае чалавеку глыбей спазнаць Божую любоў, больш пазнаць сябе, сваю слабасць і грэшнасць, вядзе да большай пакоры і выклікае агіду да грахоў, шчырае жаданне выправіцца за грахі мінулага. Генеральная споведзь адрозніваецца ад споведзі за доўгі перыяд тым, што чалавек і да гэтага спавядаўся рэгулярна (напрыклад, 20 гадоў), а занядбаў справу паяднання.

Такая духоўная добраахвотная практыка вядомая з даўніх часоў. Напрыклад, святы Тамаш з Аквіна лічыў яе вельмі карыснай для душы чалавека. У XIV стагоддзі папа Бэнэдыкт XI пахваліў генеральную споведзь і дазволіў яе ва ўсім Касцёле. Святы Вінцэнт дэ Поль, вялікі апякун убогіх, спавядаючы людзей, якія былі на парозе смерці, заўважыў, што генеральная споведзь дае ім магчымасць адкрыць тое, чаго не ўсведамлялі на працягу ўсяго жыцця.

Асаблівую ролю ў распаўсюджванні генеральнай споведзі адыграў святы Ігнацый Лаёла. Святы рэкамендуе такую споведзь напрыканцы першага тыдня духоўных практыкаванняў (даўжэйшых рэкалекцый, якія ад імя іх стваральніка называюцца ігнацыянскімі). Заснавальнік ордэна езуітаў у 44 пункце “Духоўных практыкаванняў” піша пра карысць генеральнай споведзі:

1. Вернік узбуджае большы жаль, бо ахоплівае грахі і няправеднасць усяго жыцця.

2. Рыхтуючыся да генеральнай споведзі, вернік лепш пазнае стан сваёй душы, брыдоту грахоў, што ў сваю чаргу вядзе да болю па іх прычыне і павялічвае заслугу.

3. Вернік лепш рыхтуецца да прыняцця Найсвяцейшага Сакраманту, які дапамагае яму не ўпасці ў грэх, але і ўзрастаць у ласцы.

Генеральная споведзь неабходная, калі хтосьці раней спавядаўся няшчыра ці без выканання ўсіх умоў. Можна прыступіць да генеральнай споведзі таксама з нагоды вельмі важнай жыццёвай падзеі (напрыклад, манаскія абяцанні, сакрамант пасвячэння, юбілей). Неабходна памятаць, што папярэднія грахі ўжо прабачаны Богам, а іх паўторнае вызнанне дапамагае ўбачыць веліч Божай міласэрнасці, якая праявілася ў жыцці верніка. Падрыхтоўка да генеральнай споведзі такая ж, як і да звычайнай, толькі прадугледжвае большы адрэзак часу.



## Аральны сэкс – гэта грэх?

***“Хвала Езусу Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці з’яўляецца аральны сэкс грахом у сужэнскім жыцці? Вялікі дзякуй за адказ”.***
*Таццяна*

**На пытанне адказвае дыякан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Аляксей Філіпенка:**

– Сучасны малады хрысціянін ва ўмовах сэксуальнай рэвалюцыі і ўседазволенасці мае пэўныя маральныя цяжкасці з уласнай сэксуальнасцю. Біблія, якою хрысціянін кіруецца ў сваіх паводзінах, – гэта не камасутра, яна не распавядае, што і як трэба рабіць, каб атрымаць максімальнае сэксуальнае задавальненне. Больш за тое, Хрыстос не толькі пацвярджае старажытны запавет “не чужалож”, але і ўзмацняе яго, кажучы: *“Хто глядзіць на жанчыну, прагнучы яе, ужо зграшыў у сэрцы сваім”* (Мц 5.27,28). Тым самым Хрыстос забараняе сэксуальную распусту і сэкс па-за шлюбам.

Што ж тады кажа Біблія пра сэкс у шлюбе? *“Няхай ва ўсіх будзе ў пашане сужэнства і сужыцце беззаганнае”* (Габ 13,4). Апостал Павел не адкрывае ў падрабязнасцях сэнсу беззаганнага сужыцця, больш канкрэтна гэта робіць Каталіцкі Касцёл пасля Другога Ватыканскага сабору. А менавіта Касцёл кажа, што кожны шлюбны акт павінен быць адкрыты на зачацце дзіцяці (Humanae Vitae, 12).

Яшчэ больш дакладна гэта азначае, што мужчынская эякуляцыя павінна адбывацца ў жаночай похве. Такім чынам, аральны сэкс як замена шлюбнага акту – гэта грэх. Але ў той жа час аральныя ласкі, якія папярэднічаюць шлюбнаму акту, не з’яўляюцца грахом пры ўмовах, што: 1) захоўваецца годнасць сужонка; 2) не шкодзяць здароўю; 3) спрыяюць гармоніі паміж сужонкамі; 4) сужонак пры гэтым не становіцца прадметам для атрымання цялеснай асалоды.

# Што такое “дэпрэсія” і як з яе выйсці?




**Сёння мы паразмаўляем пра дэпрэсію і паспрабуем высветліць, чым могуць дапамагчы сабе людзі, якія знаходзяцца ў дэпрэсіўным стане.**

■ **Наталля Станкевіч**, *псіхолаг*

Напачатку давайце акрэслім, чым дэпрэсія НЕ з'яўляецца.

Вось што некалі напісаў карыстальнік форуму, на якім я кансультую: *“У маёй дзяўчыны ўжо каля двух тыдняў дрэнны настрой. Я імкнуся яе падтрымаць, выязджаю з ёю на прыроду. Падчас нашых вандровак яна “ажывае” – усміхаецца, радуецца, – але калі мы вяртаемся, – зноў пачынае сумаваць”.*

У гэтым паведамленні мы сустракаемся з двума несапраўднымі ўяўленнямі пра дэпрэсію. Па-першае, дэпрэсія – гэта НЕ дрэнны настрой, а хвароба, і яна значна больш сур'ёзная. Па-другое, два тыдні – гэта не тэрмін для дэпрэсіі: дэпрэсія доўжыцца месяцы і гады.

## Адкуль бярэцца дэпрэсія?

Прычынаў, праз якія чалавек можа трапіць у дэпрэсіўны стан, ёсць шмат. Некаторыя з іх звязаныя з фізічнымі захворваннямі і станамі, як, напрыклад, недастатковае функцыянаванне шчытападобнай залозы, цукровы дыябет, наватворы, гармаальныя збоі, перыяд цяжарнасці і кармлення грудзьмі ў жанчын, пмс, клімакс і г.д.

Іншыя прычыны з'яўлення дэпрэсіі – псіхалагічныя. Дэпрэсія часта з'яўляецца рэакцыяй на непаражытую псіхалагічную траўму, гэта расцягнутая на гады жалоба па нейкіх стратах (блізкіх людзей, магчымасцяў і г.д.). Напрыклад, жанчына падчас цяжарнасці страчвае любімага брата ў выніку трагічнага выпадку. Яна вельмі перажывае, але не дазваляе сабе паглыбіцца ў свой боль і перажыць яго, бо баіцца, што гэта пашкодзіць дзіцяці. Калі яна нараджае, часу на жалобу таксама не застаецца: немаўлятка забірае ўсе сілы, да таго ж яго нельга траўмаваць негатыўнымі эмоцыямі. І жалоба хаваецца недзе ў глыбіні душы, чалавек забараняе сабе адчуваць боль. Аднак псіхіка пабудавана так, што, калі мы забараняем сабе адчуваць нешта адно – страх, боль, віну і г.д., – мы аўтаматычна перастаём адчуваць і ўсе іншыя эмоцыі, у тым ліку і станоўчыя. А гэта і ёсць дэпрэсія.

## Як выйсці з дэпрэсіі?

1. Першы крок – упэўніцеся, што гэта менавіта дэпрэсія: калі вы нічога не адчуваеце, жывяце быццам з “мёртвай душой” працяглы час (больш за 2-3 месяцы), знаходзіцеся ў стане пастаяннай фізічнай “разбітасці” і стомы, магчыма, маеце думкі пра самагубства, – тады можна казаць менавіта пра дэпрэсію.

2. Высветліце прычыну дэпрэсіі. Не паленуйцеся прайсці медыцынскае абследаванне, у тым ліку на гарманальныя змены.

3. Калі са здароўем усё добра, варта асэнсаваць тыя псіхалагічныя раны і траўмы, якія паслужылі прычынай блакавання вашых пачуццяў. Рабіць гэта найлепей з дасведчаным псіхолагам.

4. Калі ваш стан не настолькі пагражальны, то могуць дапамагчы і больш простыя крокі:

■ акружыце сябе прыемнымі і цікавымі для вас рэчамі і людзьмі: вашае атачэнне павінна падтрымліваць вас і надаваць аптымізму;

■ зрабіце больш разнастайнымі вашыя заняткі, выйдзіце з палону руціны і штодзённасці: невялікае падарожжа, паходы на выставы, у кавярню з сябрамі, выезды на прыроду – гэта тое, што выдатна падымае настрой;

■ будзьце ўважлівымі да свайго здароўя, падтрымлівайце сябе карысным, багатым на вітаміны харчаваннем;

■ засяроджвайцеся на пазітыўных эмоцыях, больш усміхайцеся;

■ не трацьце сілы і энергію на негатыў: зайздрасць, злосць і г. д.

■ паспрабуйце апранаць адзенне больш яркіх, жыццярадасных колераў: эмацыянальныя ўпадкі часта звязаныя з дрэнным надвор'ем, асабліва ўвосень. Калі ў шэры дзень вы будзеце апранутыя ў шэрачорнае адзенне, – гэта не паслужыць вам добрай падтрымкай.

■ рабіце нешта прыемнае для сябе і для блізкіх: дабро, калі яго падзяляеш з іншым, вяртаецца ў яшчэ большых памерах.

Здароўя вам і шчаслівых Велікодных святаў!

---

**З Днём нараджэння!**

*Сардэчна віншуем ксяндза Аляксандра Барана з нагоды Дня нараджэння!*

*Няхай Пан Бог спашле Вам моцнага здароўя на доўгія гады і жыццёвай мудрасці ў выкананні штодзённых спраў, Маці Божая заўсёды трымае Вас пад сваёй апекай, а Дух Святы спадарожнічае ва ўсіх шляхах Вашых!*

*Шчыра дзякуем Вам за нястомную дзейнасць, работу з дзецьмі, цікавыя падарожжы, за добрае адкрытае сэрца, за цярплівасць і шчодрасць, клопаты і малітвы! З Вамі наш касцёл расцвіў!*

Парафіяне касцёла св. Марыі Магдалены, г. Навалукомль

---

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 мая 2014 г.** **Ян 14, 15-21**

Вучні, якія любяць Езуса (а гэта любоў праяўляецца ў выкананні Яго запаведзяў), атрымаюць дар Святога Духа. Святы Дух будзе дапамагаць ім, калі Езус узыдзе на неба. Ён – Святы Дух – будзе абараняць іх веру і Божае жыццё ў іх сэрцах і ў Касцёле. Святы Дух будзе ўказваць на Езуса і дапаможа цалкам зразумець Яго справы. Святы Дух бачны дзякуючы сваім дзеянням. Бачаць Яго (гэта значыць, Яго дзеянні) тыя, хто заўважае дзеянне Бога ў сабе і вакол сябе. Не бачыць Божага Духа свет, які глядзіць на жыццё толькі вачыма цела.

*– Ці люблю я Езуса?*

*– Ці паслухмяны Яго запаведзям?*

*– Ці прашу Святога Духа, каб Ён дапамагаў мне ў духоўным жыцці?*

*– А можа, не думаю пра духоўныя справы?*

*– А можа, гляджу на свет і жыццё па-свойму?*

*– Ці прашу Святога Духа, каб Ён навучыў мяне глядзець па-Божаму на Ягоныя справы і на жыццё?*

*– Я выконваю сваю волю ці Божую?*

*– Каму давяраю ў жыцці: сабе ці Богу?*

*– Ці ўважліва слухаю натхненні Святога Духа, каб Божае Валадарства расло ў маім сэрцы?*

*– А можа, я не хачу, каб Бог быў Панам майго сэрца?*

*– Тады хто пан майго сэрца?*

*– Ці бачу дзеянне Бога ў маім жыцці?*

*– Ці дзякую Яму за Яго дабро?*

*– Ці супрацоўнічаю з Ім?*

*– Ці імкнуся я ўсё больш глядзець на справы па-Божаму, а не толькі па-чалавечы?*

**1 чэрвеня 2014 г.** **Ян 17, 1-11**

Малітва, якой моліцца Езус да Айца, становіцца для вучняў сведчаннем Яго еднасці з Айцом. Езус выконвае адвечныя Божыя справы. Яго справы – гэта справы Бога, Які сышоў да сваіх дзяцей. Справа Езуса – аб’яўленне Божай хвалы. Да гэтага Езус далучае сваіх вучняў. Вучні – Святы Касцёл – працягваюць місію Езуса. У Касцёле супольнасці вучняў аб’яўляецца хвала Хрыста. Бог сцеражэ сваіх вучняў. Важным з’яўляецца еднасць Касцёла. Еднасць на ўзор Найсвяцейшай Тройцы. Святы Дух будуе гэту еднасць у Касцёле, адорваючы яго сваімі дарамі. Без дароў Святога Духа нам не хопіць сілы будаваць Святы Касцёл.

*– Ці ўсведамляю я, што Бог прыйшоў для майго збаўлення?*

*– Ці разумею, што Бог хоча пабудаваць у маім сэрцы святыню, у якой я буду ўзносіць Яму хвалу?*

*– Ці разумею, што Касцёл – гэта не толькі арганізацыя, але Цела, галавой якога з’яўляецца Хрыстус?*

*– Ці бачу Бога ў супольнасці вернікаў?*

*– Ці карыстаюся дарамі, якімі адорвае мяне Бог у Касцёле: Сакраманты, Божае Слова, супольнасць?*

*– Ці змагаюся за дабро Касцёла?*

*– Ці хачу, каб гэта была супольнасць любові?*

*– Ці будую еднасць у Святым Духу?*

*– А можа, я разбураю братэрства?*

*– А можа, раню Касцёл і братоў?*

*– Ці разумею, што дзеянні Касцёла – гэта прастора, у якой дзейнічае Бог?*

*– Што я раблю для праслаўлення Бога ў Касцёле і ў свеце?*

**8 чэрвеня 2014 г.** **Ян 20, 19-23**

Езус Праслаўлены адорвае вучняў Святым Духам. Ён пасылае апосталаў, каб працягвалі Яго місію. Вучні, якіх вядзе нябачны, але прысутны ў іх сэрцах Бог-Святы Дух, ідуць перамяняць свет. Асабліва важным з’яўляецца вызваленне з няволі граху. Гэта значыць, стварэнне цывілізацыі любові. Пан адарыў вучняў Святым Духам, а таксама заклікаў іх, каб прынялі Яго (Святога Духа) у сваё сэрца і сваю супольнасць.

*– Ці ўсведамляю я, што Бог праз мяне збаўляе свет?*

*– Ці веру, што Бог можа праз мяне зрабіць вялікія справы?*

*– Ці іду праз жыццё за Святым Духам?*

*– Ці слухаю Яго?*

*– А можа, уцякаю ад Духа і Яго натхненняў?*

*– Я будую цывілізацыю зла, граху і смерці або, наадварот, натхнёны Святым Духам, нясу свету любоў, прабачэнне і дабро?*

*– Ці прашу дароў Святога Духа?*

*– Ці заклікаю ў сваё жыццё Святога Духа, каб адкрываў мяне на Свае дары і ласкі?*

*– Ці шукаю ў сваёй супольнасці Божай хвалы або, наадварот, хачу праявіцца і праславіць самога сябе?*

**15 чэрвеня 2014 г.** **Ян 3, 16-18**

Бог нас любіць. І нават вельмі любіць. Настолькі, што ахвяруе за нас Свайго Сына. Робіць гэта для таго, каб мы не загінулі, але мелі вечнае жыццё. Трэба паверыць у Езуса, каб прыняць гэты дар. Ён прыйшоў не для таго, каб нас адкінуць, але для таго, каб выратаваць. Калі верым у Яго, то мы ў Яго руках, і Ён нас пераменіць і прывядзе да шчаслівага канца. Ужо цяпер мы выратаваныя. Вельмі важна, каб мы падтрымлівалі гэту веру. Той, хто адкідае Езуса, ужо сёння гіне. Таму што без Езуса няма збаўлення.

*– Ці веру я, што Бог мяне любіць?*

*– Ці разумею, што Ён памёр і ўваскрос для мяне?*

*– Ці разумею, што Бог не хоча, каб я загінуў?*

*– Ці веру ў Езуса?*

*– Ці разумею, што Ён – маё збаўленне і што без Яго нішто і ніхто мяне не выратуе? Нават мае добрыя ўчынкі.*

*– Ці разумею, што Ён збавіў мяне на крыжы?*

*– Ці разумею, што Божы Дух вядзе мяне да дасканаласці?*

*– А можа, лёгка адкідаю Езуса, Яго навуку і Яго волю, думаючы, што гэта малаважна?*

*– Ці разумею, што без Езуса я загіну?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Дзякую, мама, дзякую, тата...

**1 чэрвеня адзначаем Міжнародны Дзень дзіцяці. З гэтай нагоды можна пачуць шмат цёплых слоў не толькі пра дзяцей, але таксама і пра бацькоў. А што прагнуць сказаць сваім мамам і татам нашыя чытачы?..**

*Марына Брылёнак*

**Кацярына Пылінская:**
– Я ўдзячная сваім бацькам у першую чаргу за жыццё, якое яны мне не толькі падарылі, але і надзялілі яго ўсімі фарбамі радасці. Шчасця і любові! Я ўдзячная ім за малодшага брацiка, дзякуючы якому я навучылася быць сястрой, мамай і проста найлепшай сяброўкай. І, канешне, я ім удзячная за тое, што яны сталі для мяне прыкладам сям'і вернікаў, за тое, што менавіта яны паказалі мне шлях да Бога!

**Аня Шырневіч:**
– Я хачу выказаць удзячнасць сваім бацькам за жыццё, за іх мужнасць і адвагу! А таксама і за тое, што на сваім прыкладзе навучылі мяне быць сапраўдным чалавекам і заставацца ім у розных абставінах, навучылі любіць, годна ўспрымаць усе выпрабаванні... Можна пералічваць і пералічваць усё тое, за што я ім удзячная, але гэта немагчыма. Бо за ўсё, што я маю, вельмі ўдзячная сваім бацькам. Яны самыя лепшыя, і я іх вельмі люблю!

**Карына Радзюш:**
– Ад шчырай любові нараджаюцца шчаслівыя дзеці! Мае бацькі жывуць у шлюбе ўжо 20 гадоў. За гэтыя гады сужэнства яны падарылі жыццё чатыром дзецям. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, мы разам, заўсёды разам! І за гэта я ім вельмі ўдзячная. Жыццё ў шматдзетнай сям`і зрабіла мяне самастойнай, навучыла з павагай ставіцца да старэйшых, цаніць блізкіх. У жыцці шматдзетнай сям`і шмат цяжкасцяў, але ў ёй ёсць тое, што так патрэбна – ЛЮБОЎ. Я таксама хачу стварыць вялікую сям`ю!

**Вераніка Даўгілава:**
– У жыцці кожнага чалавека бацькі адыгрываюць вельмі важную ролю, бо менавіта яны дораць нам сваю шчырую і бескарыслівую любоў, вераць у нашы сілы нават тады, калі мы самі перастаём у іх верыць. Перадаючы веру, фарміруюць у нас трывалы падмурак для станаўлення ў жыцці. Але як часта мы забываем сказаць ім простае «Дзякуй!» ... Я ўдзячная сваім бацькам за тое, што я ёсць, і за тое, кім я сёння з'яўляюся. Таму хачу няспынна казаць ім «Дзякуй!»

**Алег Гарбачоў:**
– Я вельмі ўдзячны бацькам за сваё жыццё, якое яны мне падарылі. За тое, што я такі, які ёсць. За тое, што выхавалі мяне пахрысціянску. За тое, што ў кожным моманце майго жыцця яны заўсёды побач. І наогул, ДЗЯКУЮ ім за тое, што яны ў мяне ёсць!!! І такімі бацькамі я ганаруся.

## Увага!
## Новы адрас для карэспандэнцыі!

**Дарагія сябры!**

Нагадваем Вам, што памяняўся адрас у нашай газеце для карэспандэнцыі. Калі ласка, цяпер дасылайце свае лісты і ахвяраванні на новы адрас.

**Каб даслаць ахвяраванне на газету,** неабходна паведаміць на пошце новы адрас, а таксама прозвішча, імя і імя па бацьку атрымальніка:

**Місевіч Віктар Мар'янавіч**
вул. Савецкая, д.1
г. Глыбокае 211800
Віцебская вобл.

Стары адрас для кантактавання ў Бягомлі больш не дзейнічае. Усю карэспандэнцыю, калі ласка, дасылайце на новы адрас у Глыбокім.

**Змяніўся таксама тэлефон рэдакцыі:** 8(02156) 2-32-60, гадзіны для тэлефанаванняў: з 14.00 да 18.00 ад панядзелка да пятніцы.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## З юбілеем!

*15 мая, 10 гадоў таму, атрымаў святарскае пасвячэнне кс. Генадзь Рэйшэль. З гэтай нагоды ад імя вернікаў усёй парафіі дасылаю шаноўнаму кс. Генадзю віншаванне.*

*Жадаем мець яшчэ шмат светлых, прыгожых юбілеяў на сваім шляху Божага служэння. Няхай дапамагаюць у гэтай цудоўнай справе ўсе святыя з неба, няхай ажыццяўляюцца ўсе задумы на карысць Касцёла. Падтрымліваем Вас штодзённай малітвай!*

Л. Малей, парафія імя Найсвяцейшай Панны Марыі (Параф'янава)

## Шаноўны ксёндз Віктар Місевіч!



З нагоды 10-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў дасылаем Вам самыя прыгожыя пажаданні:

*Прымі нашыя пажаданні, ойча наш любімы,*
*Бо ўсімі ты вельмі шанаваны.*
*Сёння гарачыя малітвы ўзносім ля алтара.*
*Няхай келіх горычы здалёк цябе абміне,*
*Каб жыў спакойна на гэтай слёз даліне,*
*З Божай дапамогай у здароўі і шчасліва*
*Мог доўга працаваць на Божай ніве.*
*Колькі зорак ясных стварыў Бог на небе,*
*Столькі шчасця, ойча, мы жадаем табе.*

Сям'я, якая цябе любіць (Яніна Вяршэль, в. Вігушкі, Іўеўскі р-н )

## Шчыра віншуем!

*16 мая адзначае 22-годдзе святарскага пасвячэння кс. Анджэй Бочар – пробашч парафіі Святога Станіслава ў Далёкіх.*

*Шаноўны кс. Анджэй! Жадаем Вам апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, натхнення.*

*Хочам выказаць падзяку за Вашу шчырасць у працы і ў малітве на карысць не толькі сваіх парафіян, але і вернікаў з іншых парафій. Дзякуй Вам за тое, што ўмееце знаходзіць патрэбныя словы для кожнага чалавека.*

Парафіяне

## Віншуем!

*15 мая ксёндз Генадзь Рэйшэль адзначыць 10-ую гадавіну святарства. Шчыра віншуем Вас, ксёндз Генадзь! Няхай Божая ласка ніколі не пакідае Вас, няхай Святы Дух асвячае кожны дзень Вашага жыцця, а Езус будзе Вашым найлепшым сябрам! Жадаем таксама, каб Ваша праца на Божай ніве прыносіла шчодры плён.*

Вернікі з парафіі Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. Заказ 3899

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах. Тыраж 3400 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3. Афсетны друк. Падпісана ў друк 21.05.2014 г. у 19.25

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02156)2-32-60
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ